ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 38 (2596) 24 верасня 1998 г. Выдаецца з 1955 г. Цана 2000 рублёў.

## 1998-мы — ГОД АДАМА МІЦКЕВІЧА



**Сёняшні год, як вядома, па рашэнню ЮНЕСКА аб'яўлены годам Адама Міцкевіча, паэта, які належыць цэламу чалавецтву. Міжнароднае свята паэзіі, прысвечанае 200-годдзю з дня яго нараджэння, 12 верасня адбылося ў старажытным Навагрудку. Ва ўрачыстасцях прымалі ўдзел дэлегацыі з Расіі, Польшчы, Украіны і Літвы. Беларускую дэлегацыю ўзначальваў прэм'ер-міністр краіны Сяргей Лінг, які, выступаючы на цырымоніі адкрыцця свята, сказаў, што Адам Міцкевіч вырас на беларускай зямлі, выхоўваўся на польскіх і рускіх культурных традыцыях і кансалідаваў вакол сябе дэмакратычна настроеных прадстаўнікоў шляхецкай інтэлігенцыі — палякаў, беларусаў, рускіх — у іх сумеснай барацьбе за свабоду і роўнасць усіх прыгнечаных народаў. Адам Міцкевіч — сын польскага народа і зямлі беларускай.**

**НА ЗДЫМКУ: удзельнікі свята ля помніка Адаму Міцкевічу.**

*(Заканчэнне фотарэпартажу на 6-й стар.).*

**У МІНСКУ ЁСЦЬ ГАРАДСКОЕ АБ'ЯДНАННЕ «ДЗЕЦІ — НЕ ДЛЯ НАСІЛЛЯ»**

## ХТО АБАРОНІЦЬ АД НАС НАШУ БУДУЧЫНЮ?

**Кожны з нас зазнаў калі-небудзь насілле. Кожны праяўляў яго да каго-небудзь. Так збудаваны свет. Але чамусьці цяжка змірыцца з насіллем у адносінах да дзіцяці. І размова ідзе не пра маньякаў (адзін з якіх, дарэчы, сёння ходзіць па Мінску, яго ахвярамі стала больш дзесяці дзяўчынак), а пра зневажэнне, пабоі, зняважлівае стаўленне да дзяцей у сем'ях, дзіцячых садах і школах. Па даных дзіцячага псіханеўралагічнага дыспансера, летась у Мінску было зафіксавана 232 спробы самагубства сярод падлеткаў. 5 з іх памерла. 85 дзяцей да 15 гадоў хацелі скончыць сваё жыццё. Памёр адзін.**

**Калі ў 1995 годзе на ўлік з псіхічнай паталогіяй было пастаўлена 1 900 чалавек, то ў 1997-м гэты паказчык узрос да 2 276 чалавек.**

**За мяжой, дарэчы, сітуацыя не лепшая. Амерыканцы прызнаюць, што ў іх краіне кожны дзень у выніку насілля паміраe трое дзяцей. Вельмі шмат дзяцей у свеце перажывае зняважлівых адносіны да сябе (яны не маюць самага неабходнага — любові бацькоў, у іх няма добрага харчавання, вопраткі).**

**На Беларусі ёсць дзяржаўная праграма па абароне дзяцей. Дзейнічае Закон аб правах дзіцяці. Яго палажэнні змешчаны на шыльдах у многіх школах. Але сітуацыя ад гэтага не паляпшаецца. Калі з дзіцём здараецца няшчасце, яно часцей за ўсё застаецца з ім сам-насам. Школьныя сацыяльныя псіхолагі (у Мінску яны ёсць амаль у кожнай школе) не становяцца даверанай асобай. З 1-га жніўня ў Мінску працуе кругласутачна тэлефон даверу для дзяцей і падлеткаў. Можа, псіхолагі, якія па ім адказваюць дзецям, здолеюць выратаваць нечую душу. Але зноў-такі, тэлефон даверу — гэта хуткая дапамога. А лячэнне!..**

**У Савецкім раёне Мінска ў аб'яднанні пазашкольных устаноў створана ў якасці эксперыменту мадэль сацыяльна-псіхалагічнай службы "Дзеці — не для насілля". Вы заўважылі, мабыць, што размова ідзе толькі пра Мінск. Гэта, канешне, не значыць, што па ўсёй астатняй Беларусі ў сэнсе насілля ўсё спакойна. Гэта значыць толькі, што падобных устаноў не хапае. Летась яшчэ стала працаваць гарадское грамадскае аб'яднанне па папярэджанні жорсткага стаўлення да дзяцей "Дзеці — не для насілля". Асноўная мэта аб'яднання — садзейнічаць рэалізацыі права дзяцей на абарону ад усіх відаў эксплуатацыі, фізічнага і псіхічнага насілля, жорсткага, зневажальнага стаўлення, сексуальнай эксплуатацыі (у тым ліку з боку бацькоў). За год гэтае аб'яднанне правяло анкетаванне 1 000 школьнікаў у 17 школах Мінска. Падрыхтаваны буклет "Права на жыццё без насілля і прыніжэння", 5 інфармацыйных лістоў па праблеме жорсткага стаўлення да дзяцей, праведзены 24 лекцыі-кансультацыі ў школах з бацькамі.**

**Наш карэспандэнт сустрэўся з супрацоўнікамі службы Маргарытай ПРАХІНАЙ і Галінай КАЗЛОВАЙ.**

*— Чаму ўзнікла ідэя арганізаваць сацыяльна-псіхалагічную службу, якая займаецца праблемай прадухілення насілля ў адносінах да дзяцей?*

**Г. Казлова:** — Я працавала 3, а Маргарыта Прахіна 9 гадоў у Камісіі па справах непаўналетніх Савецкага райвыканкома. Кожны дзень перад нашымі вачамі праходзілі дзеці з нешчаслівых

**(Заканчэнне на 3-й стар.).**

## ВІНШУЕМ СЯРГЕЯ ГРАХОЎСКАГА

**Даўнім чытачам "Голасу Радзімы" няма патрэбы прадстаўляць Сяргея Грахоўскага. Ён верны сябра газеты. Не аднойчы навукоўцы і журналісты прысвячалі яму і яго творчасці нарысы і артыкулы. Але найбольшай асалодай для чытачоў заўсёды было знаёмства з паэзіяй Сяргея Грахоўскага. З цікавасцю чытаюць яго тонкія, усхваляваныя аповяды пра даўніх, яшчэ даваенных сяброў-пісьменнікаў, пра малавядомыя постаці беларускай культуры, з якімі зводзіў пісьменніка лёс.**

**Сяргей Грахоўскі прыйшоў у літаратуру ў 1936 годзе. Потым на доўгія гады па трагічных абставінах апынуўся далёка ад Беларусі. У 1956 годзе вярнуўся ў Мінск. З таго часу выйшла ў паэта 56 кніг. С. Грахоўскі — лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Я. Коласа, літаратурнай імя А. Куляшова, ён заслужаны работнік культуры, узнагароджаны медалём Ф. Скарыны. С. Грахоўскі ганаровы грамадзянін Глуска і раённага цэнтра Акцябрскі.**

**Калектыў рэдакцыі віншуе Сяргея Грахоўскага з 85-годдзем, жадае паэту добрага здароўя і творчага плёну.**

*(Вершы паэта змешчаны на 7-й стар.).*

## НАВАПОЛАЦКУ — 40 год



**На гэтым месцы была ўстаноўлена 40 гадоў назад першая палатка будучага горада.**

*(Заканчэнне фотарэпартажу на 8-й стар.).*

ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

## У ШТАРМАВОЕ НАДВОР'Е ШТУРВАЛ ТРЭБА ТРЫМАЦЬ У РУКАХ АСАБЛІВА МОЦНА

Такую думку адносна крызісных з'яў у эканоміках Беларусі і Расіі 14 верасня ў ходзе сустрэчы са старшынёй Дзяржсавета Удмурцкай Рэспублікі Расійскай Федэрацыі Аляксандрам Волкавым выказаў Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка.

"За некалькі апошніх дзён нам удалося стабілізаваць сітуацыю ў рэспубліцы, — сказаў кіраўнік беларускай дзяржавы. — Прыняты эфектыўныя меры. Галоўнае — мы не страцілі рычагоў кіравання эканомікай".

Аляксандр Лукашэнка катэгарычна абверг чуткі аб тым, што беларуска-расійская граніца будзе "закрыта" для патоку тавараў, якія ідуць у суседнюю краіну. "Нам выгадна гандляваць з Расіяй, — сказаў Прэзідэнт. — Аднак цяпер мы ўпарадкоўваем эканамічныя адносіны з нашым суседам. Для жулікаў граніца будзе сапраўды закрыта".

ВІЗІТ ДА ПРЭЗІДЭНТА

## МІТРАПАЛІТ ФІЛАРЭТ ВЫКАЗАЎ ПРОСЬБУ

Прэзідэнт краіны Аляксандр Лукашэнка прыняў Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі, мітрапаліта Мінскага і Слуцкага Філарэта.

Як паведамляе прэс-служба кіраўніка дзяржавы, мітрапаліт Філарэт праінфармаваў Прэзідэнта па пытаннях, звязаных з падрыхтоўкай візіту ў рэспубліку Яго Святасці Патрыярха Маскоўскага і Усяе Русі Аляксія II. Ён наведвае Беларусь ужо трэці раз — з мэтай пастарскай візітацыі Віцебскай і Полацкай епархій. Мітрапаліт Філарэт уручыў Аляксандру Лукашэнку пісьмо за двума подпісамі — сваім і кардынала Свёнтэка, якое змяшчае сумесную просьбу аб вызваленні малалых свяшчэннаслужыцеляў ад прызыву на воінскую службу.

«БЕЛТРАНСГАЗ»



38 гадоў прайшло з таго часу, як быў пракладзены першы газапровад з Дашавы на Мінск. Ён надзейна забяспечвае блакітным палівам не толькі нашу рэспубліку, але і Літву, Латвію, Калінінградскую вобласць. Тады ж і з'явілася Слонімскае ўпраўленне магістральных газаправодаў. Зараз яно — адно з лепшых у дзяржаўным прадпрыемстве "Белтрансгаз", абслугоўвае больш за дзевяцьсот кіламетраў газавай магістралі. Найбуйнейшы ў свеце газапровад Ямал — Еўропа таксама абслугоўваюць сланімцы. Круглыя суткі дзяжураць лінейныя дыспетчары, напагатове рамонтныя службы.

НА ЗДЫМКУ: дзяжурства на цэнтральным дыспетчарскім пункце нясе Наталля ДУДЗІК.

Фота Рамана КАБЯКА, БелТА.

СТАТЫСТЫКА

## ВУП — РАСЦЕ

Па папярэдніх даных Міністэрства статыстыкі і аналізу, за студзень — жнівень рост аб'ёмаў валавога ўнутранага прадукту (ВУП) у супастаўных цэнах у Беларусі склаў 11 працэнтаў у параўнанні з адпаведным перыядам мінулага года.

Прамысловасць рэспублікі павялічыла вытворчасць прадукцыі на 12 працэнтаў. Прычым па таварах народнага спажывання гэты паказчык склаў 20,6 працэнта. Вырабы харчовай групы выпушчана больш на 17,8 працэнта. Адзначаны таксама і рост аб'ёмаў нехарчовых тавараў на 23,7 працэнта. У сельскай гаспадарцы назіраецца адставанне толькі ў намалотах збожжа ў першапачатковай апрыходаванай вазе — на 25 працэнтаў (па даных на 7 верасня) у параўнанні з адпаведным перыядам мінулага года. Па астатніх раздзелах вытворчасці вёска ідзе з плюсам. Напрыклад, рэалізацыя жывёлы і птушкі (у жывой вазе) павялічылася на 9 працэнтаў, малака — на 6, яек — на 3 працэнты.

«ДАЖЫНКІ-98» НА БРЭСТЧЫНЕ




У няпростых умовах надвор'я сёлетняга года хлебаробы Брэстчыны паспяхова справіліся з уборкай ураджаю збожжавых. Да абласнога свята "Дажынкі-98", якое прайшло 12—13 верасня ў Бярозаўскім раёне, яны падрыхтавалі важкія працоўныя падарункі. Разам адзначалі свята ўраджаю земляробы з усіх раёнаў вобласці. Перад імі выступілі артысты Беларусі, Украіны і Польшчы.

НА ЗДЫМКУ: на свяце "Дажынкі-98".

Фота Рамана КАБЯКА, БелТА.

У ПАДТРЫМКУ ПРЭЗІДЭНТА

## ЛЕВЫ ДЭМАРШ

12 верасня пяць партый і трыццаць грамадскіх аб'яднанняў левага і славянскага накірунку стварылі Беларускі народна-патрыятычны саюз. У аб'яднанне ўвайшлі Камуністычная парыя Беларусі (старшыня — Віктар Чыкін), ЛДПБ, Партыя працы і справядлівасці, Славянскі сабор "Белая Русь", Савет ветэранаў вайны, працы і праваахоўных органаў, Саюз афіцэраў і іншыя менш вядомыя арганізацыі і рухі. Новы блок правёў свой першы кангрэс народна-патрыятычных сіл, у якім прынялі ўдзел каля паўтысячы прадстаўнікоў арганізацый-заснавальніц.

— Мы аб'ядналіся дзеля падтрымкі свайго лідэра, якім мы лічым Прэзідэнта Аляксандра Лукашэнку. Мы будзем яго падтрымліваць на прэзідэнцкіх выбарах у 2001 годзе. Прэзідэнту цяжка будзе адстойваць узяты курс без падтрымкі ўсіх патрыётаў, вынікі рэферэндуму 1996 года, — заявіў старшыня ЛДПБ Сяргей Гайдукевіч, — таму мэтай аб'яднання левых і славянскіх партый з'яўляецца абарона гэтых вынікаў.

Лідэр Славянскага сабора "Белая Русь" Мікалай Сяргеў бачыць пагрозу для Прэзідэнта ў намаганні Захаду і апазіцыі па звяржэнню Аляксандра Лукашэнкі. Кангрэс НПС прыняў заяву пад назвай "Параіцца з народам". У гэтым дакуменце прапануецца правесці летам наступнага года, у пятую гадавіну прыняцця А. Лукашэнкам прысягі, агульнарэспубліканскі рэферэндум аб даверы грамадзян Прэзідэнту. Дэлегаты кангрэсу выказаліся таксама за правядзенне рэферэндуму аб далейшай інтэграцыі Беларусі з Расіяй і Украінай аж да канфедэратыўных адносін.

*"Брацкая Расія перажывае сёння не лепшыя часы. Так, эканамічная крызіс у Расіі негатыўна ўплывае на беларускую эканоміку. Але менавіта таму мы павінны згуртавацца і разам рашаць небалелія праблемы, шукаць шляхі выйсця з сітуацыі, якая склалася.*

*Расія была, ёсць і будзе вялікай дзяржавай. Цяперашняя эканамічная смута рана ці позна завершыцца, і Расія з саюзнай ёй Беларуссю стануць квітнеючымі краінамі. Не буду напамінаць пра тое, наколькі моцна звязаны паміж сабой народы нашых дзяржаў, — гэта ўсім вядома. Няма ніякіх сумненняў, што разам мы выйдзем з крызісу.*

*Курс на развіццё перш за ўсё гандлёва-эканамічных адносін з Расіяй апраўдае сябе ва ўсіх сферах як эканамічна, так і палітычна. Іменна дзякуючы палітыцы Прэзідэнта Беларусі на развіццё цесных эканамічных кантактаў з расійскімі рэгіёнамі ў мінулым годзе ўдалося павялічыць тавараазварот паміж Беларуссю і Расіяй на 40 працэнтаў.*

*Што датычыць эканамічна ўдалых заходніх краін, то мы ім не патрэбны. Запэўніваючы аб адкрытасці сваіх эканомік, Захад на самай справе адгарадзіўся ад рэспублік былога СССР квотамі і тарыфамі, якія не дазваляюць развіваць гандлёва-эканамічнае супрацоўніцтва ў патрэбнай ступені".*

*З інтэрв'ю Міхаіла МЯСНІКОВІЧА, кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта "Інтэрфаксу".*

ДЗЯКУЙ БАЛГАРАМ!

## БЕЛАРУСКАЯ ШКОЛА

14 верасня адбылося афіцыйнае адкрыццё новага навучальнага года ў Беларускай круглагадовай аздараўленчай школе ў г. Велінградзе — адным з самых вядомых бальнеалагічных курортаў Балгарыі. Кожную чвэрць года больш за сто дзяцей з розных куткоў Беларусі паралельна з навучаннем атрымліваюць магчымасць умацаваць тут сваё здароўе пад наглядам вопытных спецыялістаў.

У святочнай цырымоніі з выпадку новага навучальнага года прымаў удзел саветнік пасольства — часова павераны ў справах Беларусі ў Балгарыі А. Пятроў. Ён павіншаваў вучнёўскі і педагагічны калектывы школы з пачаткам вучэбна-аздараўленчага сезону і выказаў словы ўдзячнасці ўраду Беларусі, беларускаму фонду "Мы — дзецям" і балгарскім сябрам школы. Дзякуючы ім яна сёмы раз запар гасцінна расчыніла дзверы насустрач дзецям.

РАДЫЁЭФІР

## ГАВОРЫЦЬ «СТАЛІЦА»

21 верасня беларускі эфір папоўніўся новай радыёстанцыяй. На новай частаце і з новым фарматам вяшчання выходзіць "Сталіца" — адно з падраздзяленняў Белтэлерадыёкампаніі.

Па задуме кіраўніцтва, яе вяшчанне ахопіць 80 працэнтаў тэрыторыі рэспублікі. Ва ўсякім разе, на першым этапе трансляцыя будзе весціся праз 15 перадатчыкаў, потым іх лік узрасце да 22. Як адзначыў генеральны дырэктар "Сталіцы" Ігар Ганчарук, новая радыёстанцыя не стане аналагам традыцыйных для беларускага ФМ — эфіра музычна-забаўляльных станцый. Згодна з новай сеткай вяшчання, сорак працэнтаў эфірнага часу зоймуць інфармацыйныя выпускі і аўтарскія праграмы.

НА РАСКОПКАХ



Археалагічныя раскопкі на месцы былога Успенскага сабора ў Віцебску праводзяць старшы навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук Рэспублікі Беларусь Вольга Ляўко і мясцовы археолаг Ігар Цішкін. Пакуль удалося аднавіць рэшткі саборнага фундаменту ды сабраць шэраг цікавых знаходак XVIII—XIX стагоддзяў.

НА ЗДЫМКУ: археолаг Ігар ЦІШКІН, кіраўнік раскопак Вольга ЛЯЎКО і намеснік загадчыка аддзела рэстаўрацыі Віцебскага аблвыканкома Уладзімір ПОЛАЎЦАЎ на месцы раскопак.

Фота Аляксандра ХІТРОВА, БелТА.

З НАВАГРУДКА



Навагрудскі масларобчы камбінат — самае буйное прадпрыемства ў рэгіёне. Тут штогод выпускаецца прыкладна 2,5 тысячы тон сметанковага масла, вырабляюць цвёрдыя сыры, сухое абястлушчанае малако, марожанае.

НА ЗДЫМКУ: сучасная лінія па вытворчасці марожанага тыпу "Эскімо".

Фота Рамана КАБЯКА, БелТА.

# ХТО АБАРОНІЦЬ АД НАС НАШУ БУДУЧЫНЮ?

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

сем'яў, якіх крыўдзяць бацькі, а дзеці самі крыўдзяць людзей і здзяйсняюць правапарушэнні. Мы сачылі за іх лёсамі і разумелі, што адміністратыўныя захады, з дапамогай якіх працуе камісія, не ўплываюць станоўча на дзяцей. Яны не ў стане не тое, што змяніць, але проста зрабіць сітуацыю мягчэйшай.

**М. Прахіна:** — Нам стала відавочна, што ў аснове ўсіх канфліктаў, непаразуменняў ляжыць насілле, любое — псіхалагічнае, фізічнае, сексуальнае. Гэта пацвярджалі і псіхолагі Камісіі па справах непаўналетніх. Як правіла, у аснове правапарушэнняў заўсёды ляжыць тое, што дзіця ці дома, ці ў школе церпіць насілле. Яго паводзіны — гэта рэакцыя на насілле. Яно прапускае ўрокі ў школе, і яго выклікаюць на камісію. Яно азлабляецца. Замест дапамогі яно атрымлівае пакаранне. Дзеці часта трапляюць на камісію на некалькі разоў. Расце агрэсія і злосць, дзіця здзяйсняе больш жорсткія правапарушэнні. Даходзіць да злачынства. Мы разумеем, што не спынім насілле. Але ж мы можам дапамагчы адаптавацца дзіцяці да яго ных жыццёвых умоў, папрацаваць з яго нымі бацькамі.

— *На каго ў першую чаргу накіравана ваша праца?*

**М. Прахіна:** — На дзіця, канешне. Але ж мы працуем і з бацькамі, і з сацыяльнымі педагогамі ў школах. Паўсюль мы абмяркоўваем магчымасці кантакту з дзецьмі без ужывання насілля. Наогул, у нашай працы некалькі аспектаў. Па-першае, мы праводзім з дзецьмі (прыходзім у гурткі па інтарэсах, школы, дзіцячыя сады) заняткі па бяспецы. Каб дзіця не стала ахвярай насілля, яно павінна ведаць пра пэўныя жыццёвыя акалічнасці. У форме гульні мы пражываем з ім сітуацыі, калі яно знаходзіцца дома адно, калі нехта малазнаёмы прапаноўвае падвезці яго на машыне. Мы даём дзецям размалёўваць карцінкі на гэтую тэму, тлумачым правілы бяспекі.

**Г. Казлова:** — Ёсць спецыяльны занятак, дзе мы вучым дзяцей казаць "не", калі невядомы чалавек прапаноўвае яму нешта, калі хоча павесці з сабой некуды. Трэба ўмець гучна і адназначна сказаць "не". Дзеці ж прывыклі, што дарослых трэба слухацца. Яны саромеюцца казаць "не", нават калі гэта трэба. І з імі з-за гэтага могуць здарыцца ўсялякія няшчасці. Мы вучым дзяцей не баяцца казаць "не" і пры ўмовах, калі дарослы праяўляе настойлівасць.

Мы з імі прайграем казкі, дзе герой, калі б умеў цвёрда казаць "не", пазбегнуў бы непрыемнасцей. Адразу дзеці шэпчуць, потым гавораць больш гучна, а потым і крычаць: "Не!". Я лічу, што ў ходзе заняткаў у дзіцяці закладваецца ў падсвядомасці правільная мадэль паводзін у падобных абставінах. Нашы заняткі да ўсяго іншага фарміруюць пачуццё ўласнай годнасці. Дзеці, якія прайшлі такую школу, паіншаму рэагуюць на зневажанне настаўніка, яны могуць сябе абараніць. Канешне, школе такое не вельмі падабаецца. Але гэта важна, бо ёсць дзеці, якія з-за звычайнага крыку настаўніка знаходзяцца ў такім шоку, што не могуць вучыцца, застаюцца з-за аднаго прадмета на другі год. Мы праводзілі апытанне па праблеме насілля сярод мінскіх школьнікаў (1 000 чалавек). І многія, вельмі многія дзеці лічаць, што калі настаўнік ці бацькі б'юць і крычаць на іх, — гэта не насілле, а выхаваўчыя захады. Частка дзяцей лічыць таксама звычайным школьным жыццём, калі іх зневажаюць аднакласнікі ці настаўнікі.

**М. Прахіна:** — Дарэчы, каля 30 працэнтаў дзяцей, якіх мы апыталі, пацвердзілі, што іх б'юць у школе. Тым больш дзеці павінны ведаць, што гэта насілле. Мы хочам дапамагчы ім процістаяць яму. А каб выявіць дзяцей, якія перажываюць насілле, мы выкарыстоўваем спецыяльную методыку, што самі распрацавалі.



**Г. Казлова:** — Зразумела, што не кожнае дзіця будзе шукаць дапамогі, калі з ім жорстка абыходзяцца ці дома, ці ў школе. Такіх дзяцей трэба выяўляць. Мы збіраем групы дзяцей 7—8 гадоў і праводзім з імі заняткі ў форме гульні. Малюнкі, гульні, кубікі. Мы можам выявіць, у каго з дзяцей ёсць праблемы. Калі мы знаходзім групу рызыкі, з ёю працуе сацыяльны псіхолаг.

— *А ці не перашкаджаюць вашай працы ў навучальных установах?*

**М. Прахіна:** — У Савецкім раёне горада Мінска мы працуем свабодна. Ды і ў цэлым горадзе нам ідуць насустрач — нічога не забараняюць. Але ж сітуацыя такая: дзяржава не перашкаджае, але і не дапамагае. Нашу ж методыку па выяўленні насілля ў адносінах да дзяцей вельмі проста афіцыйна ўвесці ў школах, дзіцячых садах па ўсяму гораду, нават рэспубліцы. Але ж пакуль гэта ўсё робіцца на грамадскіх пачатках. Наогул, дзяржава больш заклапочана пакараннем злачынцаў, чым прадухіленнем насілля. Нашы ж анкеты, малюнкі на зададзеную тэматыку распрацаваны менавіта на працу педагогаў з дзецьмі. Любы настаўнік ці выхавальнік дзіцячага сада можа пагуляць з дзецьмі ў нашы "гульні", тым самым выявіць праблемы дзіцяці. Потым з ім і яго бацькамі можа працаваць псіхолаг.

— *Як вы працуеце з бацькамі?*

**М. Прахіна:** — Трэба адзначыць, што гэта праца вельмі складаная. Многія бацькі не лічаць насіллем, калі яны б'юць, крычаць на дзіця. Ім здаецца, што дзіця па-іншаму не разумее. А яны проста не ведаюць, як можна па-іншаму. Праблема ў тым, што дзіця сёння вырашае праз насілле, агрэсію свае праблемы з аднакласнікамі, а заўтра па гэтай схеме будзе выхоўваць сваіх дзяцей.

Мы прыходзім на бацькоўскія сходы, кансультуем жадаючых індывідуальна.

**Г. Казлова.** — Канешне, ёсць людзі, якія здзекваюцца са сваіх дзяцей, і іх не зменіш. Але ж ёсць тыя, хто стаў ахвярай загнанага кола агрэсіі: яго выхоўвалі, выкарыстоўваючы насілле. І ён не ведае, як выхоўваць сваё дзіця без насілля. Такія бацькі хочуць, каб іх навучылі. Дарэчы, у нас ёсць відэаматэрыялы, якія вучаць, як паводзіць правільна сябе са сваім дзіцём з самага нараджэння. Як звяртацца да яго, як калыхаць.

**М. Прахіна:** — Дарэчы, дзіця, якое падвержана насіллю ці перажывае зневажлівае стаўленне да сябе, мае больш шанцаў стаць ахвярай злачынцы, чым якое іншае. Для яго ўласціва цягнуцца да паказнога сяброўства. Любы добры "дзядзька", які прапаноўвае цукерку, адразу ж выклікае давер. І тут недалёка да бяды.

— *Якія дзеці, на ваш погляд, адчуваюць на сабе больш ціск?*

**Г. Казлова:** — Мы праводзілі анкетаванне па выяўленні насілля сярод вучняў розных мінскіх школ — у так званых спальных раёнах, у Малінаўцы, дзе жыве шмат перасяленцаў з чарнобыльскай зоны, у прэстыжных цэнтральных гімназіях. Нас здзівіла, што вельмі шмат насілля, ціску з боку настаўнікаў, бацькоў у спецшколах. Дзеці вучацца ў прэстыжных школах, бацькі многага чакаюць ад іх і зневажаюць, прыгнятаюць дзяцей.

— *Здаецца, нашы дзеці не вельмі шчаслівыя...*

**М. Прахіна:** — Бывае па-рознаму. Часам дзівішся, як падабаецца дзецям удзельнічаць у нашых апытаннях, гульнях. Увага да іх жыцця, пачуццяў прыемная ім. Яны часта звяртаюцца да нас: "А вы яшчэ да нас прыйдзеце?"

Мы бачылі: многія дзеці не ўмеюць выказаць радасць. Да іх звяртаешся з прапановай выбраць карцінку, дзе чалавек усміхаецца. Ён выбірае, але ж сам не можа ўспомніць, калі адчуваў радасць і шчасце. Ці пачынае фантазіраваць, нібы ўспамінаючы, які цудоўны падарунак у незвычайна прыгожай скрыначцы ён атрымаў на Новы год. Якія на ёй былі банцікі і кветкі. Іншыя дзеці часта смяюцца ў такі момант. Яны, здаецца, ведаюць дакладна: такога не бывае.

Малыя дзеці ў працэсе гульні шчыра расказваюць пра свае праблемы. На пытанне пра перажытую крыўду дзіця можа паведаміць шмат пра тое, як да яго ставяцца ў школе ці дома. Часам слухаеш іх, глядзіш на іх — шкадуеш да слёз. Першы раз цябе бачаць. Ты з імі гуляць спрабуеш, а яны пытаюць: "А двойкі ставіць не будзеце?" Такія запалоханыя. Потым увойдзеш у давер — ён частуе цябе цукеркай.

Мы разумеем, што наша служба — гэта кропля ў парыўнанні з морам насілля. Але мы будзем працаваць і шукаць людзей, здольных нам інфармацыйна, матэрыяльна дапамагчы.

**Г. Казлова:** — Так. Некаму ж трэба абараняць дзяцей.

**Калі ваша дзіця стала ахвярай насілля ці вы баіцеся, каб такога не здарылася, звярніцеся да спецыялістаў у службу "Дзеці — не для насілля".**

**Тэлефон сацыяльна-псіхалагічнай службы па папярэджанню жорсткага стаўлення да дзяцей "Дзеці — не для насілля" — 239-74-69.**

**Адрас грамадскага аб'яднання "Дзеці — не для насілля": г. Мінск, вул. Кісялёва, д. 45, кв. 8.**

**Алена СПАСЮК.**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

---

***ЦІ ЁСЦЬ У СТАЛІЦЫ БЕЛАРУСІ РЭСТАРАН З НАЦЫЯНАЛЬНАЙ КУХНЯЙ?***

# МОРАПРАДУКТЫ ЗАМЕСТ ДРАНІКАЎ

Ці можна добра пад'есці ў Мінску?

— Няма пытання, былі б грошы, — адказвае большасць.

Аднак ежа ежы — розніца, як і рэстаран — рэстарану. Таму, хто проста хоча есці, у большасці выпадкаў усё роўна, дзе спатоліць голад, толькі б смачна і, пажадана, не вельмі дорага. Знаўцы затрымліваюць позірк на стравах фірменнай кухні, якімі славяцца добрыя рэстараны і якія вызначаюць іх твар і, калі хочаце, палітыку.

На думку знаўцаў, лепшым мінскім рэстаранам ужо працяглы час з'яўляецца "Іспанскі куток". Ён адносіцца да сістэмы "Іспанскіх куткоў", якія можна сустрэць па ўсім свеце. Адзін з іх размешчаны, да прыкладу, на Манежнай плошчы ў Маскве, ёсць такі рэстаран і ў Санкт-Пецярбургу. Адметнай асаблівасцю іспанскай кухні, па словах шэф-повара рэстарана Вадзіма Турноўскага, з'яўляецца тое, што інгрыдыенты, якія выкарыстоўваюцца ў ёй, — мяса, курыцу, морапрадукты, рыбу, гародніну, якія ў еўрапейскай кухні прынята ўжываць асобна, тут можна не баяцца змяшаць разам, што ярчэй за ўсё праяўляецца ў паэльі — найбольш вядомай фірменнай страве не толькі "Кутка", але і іспанскай нацыянальнай кухні наогул.

Спачатку ў "Іспанскім кутку" ў Мінску шэф-поварам быў іспанец, аднак праз некаторы час яго месца заняў пан Турноўскі, які пачынаў сваю работу ў Маскве, бо там знаходзіцца асноўны офіс фірмы. Пераехаўшы ў Мінск, два гады працаваў намеснікам шэф-повара, пры гэтым ездзіў у Маскву, вывучаў іспанскую, італьянскую, мексіканскую і іншыя сусветныя кухні. Сёння Турноўскаму 22 гады, ён самы малады шэф-повар самага лепшага ў горадзе рэстарана. Іспанцы, якія пабывалі ў мінскім "кутку", кухняй задаволены і кажуць, што адрозненняў ад саваёй дамашняй не знаходзяць. І гэта не дзіўна, бо рэцэптура ўсіх страў у меню "Іспанскага кутка" прывезена з Іспаніі, дзе, адпаведна, і была распрацавана іспанскімі шэф-поварамі. Цікава, што прадукты, якія ідуць на прыгатаванне страў, прывозяцца таксама з Іспаніі ў Маскву, дзе знаходзіцца сама фірма і яе склады, а ўжо адтуль — у Мінск і іншыя гарады, дзе ёсць рэстараны сістэмы "Іспанскі куток". Шэф-повара рэстарана гэта задавальняе, і ён гаворыць, што каб не было паставак прадуктаў непасрэдна з Іспаніі, дык адкрываць тут іспанскі рэстаран проста не мела б сэнсу, бо морапрадуктаў патрэбнай якасці і ў неабходнай колькасці тут проста няма. Незадаволены ён і беларускім мясам, тым больш, што на мясцовым рынку сфарміравалася пэўная традыцыя яго нарэзкі, якая не адпавядае патрабаванням іспанскай кухні. Нярэдка даводзіцца рабіць спецыяльны заказ, часам нават у Маскве.

Нягледзячы на тое, што гародніна і фрукты закупляюцца тут, іх асартымент вельмі невялікі, а тыя, што ёсць, не заўсёды адпавядаюць патрабаванням. Аднак у тым, што датычыць прадуктаў, яшчэ раз — у гэтым выпадку ўжо ў літаральным сэнсе — знаходзіць сваё пацвярджэнне вядомая ісціна, што на смак і колер таварышаў няма. Па словах пана Іліі, шэф-повара вядомага рэстарана "Сеткхаўз", беларускія прадукты цалкам адпавядаюць усім яго патрабаванням. За плячыма пана Іліі — дваццацігадовы вопыт работы ў Германіі і два гады ў Швейцарыі, але, па яго словах, лепшых за беларускія прадукты яму бачыць не даводзілася. Задавальняе пана Ілію і вялікі выбар він і іншых спіртных напояў.

Нягледзячы на тое, што значнае месца ў меню "Іспанскага кутка" займае іспанская кухня, прыкладна 10 працэнтаў прыпадае на стравы беларускай кухні і некаторыя іншыя дапаўненні. Практычна ва ўсіх мінскіх рэстаранах, незалежна ад іх нацэначнай катэгорыі, павінна быць выканана абавязковае патрабаванне: прысутнасць у меню недарагога комплекснага абеду з нацыянальных беларускіх страў, якія ў "Іспанскім кутку" выглядаюць чымсьці накшталт мясцовай экзотыкі. Тым не менш, меню тут нельга лічыць непарушным і зацвярджанным раз і назаўсёды. Пры дапамозе камп'ютэра вызначаюць найбольш і найменш папулярныя ў наведвальнікаў стравы, і апошнія ў залежнасці ад іх попыту прыкладна раз у тры месяцы замяняюцца. Пастаянна праводзяцца фестывалі лацінаамерыканскай і еўрапейскай кухняў, у час якіх робіцца апытанні і вызначаюцца стравы, што спадабаліся кліентам найбольш. Магчыма, яны застануцца ў меню на больш працяглы тэрмін.

Меню рэстарана зацвярджаецца камісіяй прадпрыемства. Страва коштам да трох мінімальных зарплат трапляе ў меню аўтаматычна, а калі цана яе аказваецца вышэйшай — то лёс яе вырашае Упраўленне грамадскага харчавання Мінгарвыканкома. З самага пачатку ў "Іспанскім кутку" ўзнікалі праблемы з цэнамі, якія былі тут вельмі высокімі. Давялося стварыць спецыяльны кулінарны савет з прадстаўнікоў іншых рэстаранаў, шэф-повараў, вопытных кулінараў, якім былі прадстаўлены на ацэнку ўсе прадукты і стравы, кошт якіх перавышае вышэйшую нацэначную катэгорыю. Савет стравы і цэны адобрыў, пасля чаго самаліквідаваўся.

Зараз размова ідзе пра тое, каб трохі змяніць палітыку рэс-

(Заканчэнне на 4-й стар.).

# МОРАПРАДУКТЫ ЗАМЕСТ ДРАНІКАЎ

(Заканчэнне. Пачатак на 3-й стар.).

тарана, і чыста іспанскіх страў там будзе каля 60 працэнтаў, а астатняе меню будуць прадстаўляць нацыянальныя кухні свету.

Аднак "Іспанскі куток" — рэстаран, хоць і з лепшых, але не паказальны. У мясцовых рэстаранах фірменнае меню распрацоўваецца шэф-поварам па сваёй уласнай рэцэптуры і тэхналогіі, і фактычна гэтыя стравы — візітная картка ўстановы. Яны трымаюцца ў меню гадамі, іншыя пастаянна мяняюцца ў залежнасці ад густаў і схільнасцей кліентаў. Сёння ў некаторых рэстаранах, у прыватнасці, у "Карчме", гэта работа ажыццяўляецца з дапамогай камп'ютэрнага ўліку. Вынікі падводзяцца кожны дзень, потым у канцы месяца вызначаецца, колькі прададзена порцый той ці іншай стравы. Атрымліваецца агульная карціна, і тое, што не карыстаецца попытам, проста здымаецца з меню. Там жа разам з рахункам афіцыянт працягвае наведвальніку лісток, на якім напісаны пытанні аб тым, якія стравы спадабаліся больш, якія — менш, што захапіла ў інтэр'еры? Такім чынам адміністрацыя выкарыстоўвае магчымасць напрамую атрымаць адказы на пытанні, якія яе цікавяць.

У апошні час рэстараны выкарыстоўваюць і іншыя формы прыцягнення наведвальнікаў — напрыклад, сямейныя абеды, на якія да 17 гадзін існуе дзесяціпрацэнтная скідка. Сума атрымліваецца невялікая, але, як паказвае вопыт, такая льгота *сябе апраўдвае*. Рэстаран губляе капейкі на момант продажу, але кампенсуе гэта за кошт прытоку наведвальнікаў і павелічэння попыту.

Практычна ва ўсіх рэстаранах стаіць праблема з прадуктамі і рэгулярнасцю іх паставак.

У рэстаранаў існуюць свае градацыі. Спачатку ідзе катэгорыя "люкс", да якой адносіцца, напрыклад, вядомы, але недаступны для большасці з нас рэстаран "Максім". Вышэйшая нацэначная катэгорыя сёння захавалася ў "Іспанскім кутку", "Гасціным двары".

Вельмі нядрэнна зарэкамендавалі сябе ў Мінску кафэ-піцэрыі "Зіа пепе", якія, па чутках, належаць мясцовым "асобам арабскай нацыянальнасці". Там вельмі добрая кухня і прыстойнае абслугоўванне. Добры і яшчэ адзін "сістэмны" рэстаран "Паціца піца", дзе вышэйпамянёны прадукт гатуецца ў печцы на адкрытым агні. А вось эксклюзіўных рэстаранаў класа "люкс" у Мінску няма і, відавочна, яшчэ доўга не будзе, бо да эксклюзіўнага рэстарана патрэбен яшчэ і пастаянны наведвальнік з эксклюзіўнымі даходамі...

Знаўцы ведаюць, што па добры шашлык трэба ісці ў "Вярбу", традыцыйна добрая кухня была ў "Настальгіі", а таксама ў размешчаным у Доме ветэрана кафэ "Славянка". Адна з самых дэмакратычных устаноў такога роду ў Мінску — рэстаран "Мінскі бровар", дзе вельмі вялікі роскід цэн: там можна паабедаць за дзвесце тысяч, а можна і за два мільёны. Па чутках, "Мінскі бровар" у сучасны момант шукае новага ўладальніка, аднак малаверагодна, што сёння хтосьці ў Беларусі купіць яго за тыя тры мільёны долараў, якія былі выдаткаваны на яго рэканструкцыю і абсталяванне.

Асобная тэма — інтэр'ер мінскіх кафэ і рэстаранаў. Вельмі нямнога сярод іх такіх, дзе на самай справе праяўляецца сапраўдны густ і традыцыі ў афармленні падобных устаноў. Дзесьці ў тэрарыуме сядзіць ігуана, якая днём забаўляе дзяцей, а вечарам — падпітых дарослых. Часам рэстараны набываюць для прыцягнення наведвальнікаў залатых рыбак або змей. Часта ў афармленні выкарыстоўваюцца танныя матэрыялы накшталт дрэва, мешкавіны.

Прыкладна дзесяць-пятнаццаць гадоў назад увесь свет перажыў сапраўдны бум кітайскай кухні. З вялікім спазненнем, калі ўсюды гэта мода пайшла на спад, кітайскія рэстараны пачалі паяўляцца і ў нас. І калі ва ўсім свеце кітайскія рэстараны перш за ўсё прыцягваюць наведвальнікаў таннымі стравамі, вялікімі порцыямі і экзатычным інтэр'ерам, дык у Беларусі яны сябе падобнымі ўмоўнасцямі не абцяжарваюць. У размешчаным у Траецкім прадмесці "Кітайскім жэмчугу" кітайскага — шырма ля ўваходу, веер на сцяне і некалькі азіятаў, што апынуліся ў Мінску. Праўда, цэны здзіўляюць сваёй дэмакратычнасцю: самая дарагая страва — "філе хека смажанае" каштуе 446 800 беларускіх рублёў, можна ўзяць "свініну па рыбнаму рэцэпту", якая абыдзецца 294 900 беларускіх рублёў. Для аматараў экзотыкі ў меню ёсць "семяннякі бычыныя адварныя" па крыўднай цане 125 600 беларускіх рублёў. На пытанне, чаму ў кітайскім рэстаране адсутнічае кітайская гарэлка, афіцыянт радзіць звярнуцца да вышэйшых інстанцый, якія не хочуць сертыфікаваць гэты моцны напой. А таму наведвальнікам даводзіцца наталяць смагу "нацыянальнымі кітайскімі" напоямі "Марціні б'янка" і гарэлкай "Смірнофф".

Аднак не гэта галоўная праблема айчыннага грамадскага харчавання. Напэўна, няма ніводнага іншаземца, які б не быў узрушаны тым, што ў Мінску няма ніводнага рэстарана нацыянальнай беларускай кухні! Як вядома, ёсць турысты, для якіх праграма наведвання краіны з'яўляецца няпоўнай, калі яны не паспрабавалі нацыянальныя стравы. Да таго ж, па словах шэф-повараў многіх рэстаранаў, нацыянальная беларуская кухня карыстаецца ў іншаземцаў пэўным поспехам, бо ў ёй ёсць нямала элементаў еўрапейскай кухні. Дарэчы, у Маскве ўжо паспяхова сфарміравалася цэлая сістэма рэстаранаў айчыннай кухні, такіх, як "Рускае бістро", "Ёлкі-палкі" і гэтак далей, дзе культывуецца руская кухня, ёсць прыстойны інтэр'ер у стылі а-ля рус, добрая і адносна недарагая ежа.

Адна з сур'ёзных спроб арганізаваць прадпрыемства хуткага харчавання з нацыянальным каларытам закончылася вельмі сумна. Установы харчавання на праспекце Машэрава больш за ўсё ўзрушваюць наведвальнікаў прыкручанымі да падлогі столікамі і крэсламі. І калі спачатку ў меню яшчэ прысутнічалі дранікі, бульбяныя піражкі з капустай і іншымі начынкамі, дык ужо праз месяц-паўтара іх замянілі такія "нацыянальныя беларускія" стравы, як шашлык, селядзец з цыбуляй, яечня і смажаныя кумпячкі Буша. Між тым, усім, хто лічыць беларускую нацыянальную кухню таннай і якая не абяцае высокіх прыбыткаў, варта было б звярнуцца да твораў Уладзіміра Караткевіча, які падрабязна прыводзіў меню абедаў шляхты з стравамі, што зрабілі б гонар нават кухні "Максіма".

**Вераніка ЧАРКАСАВА.**

# ПАДАРОЖЖА ПА ВЯЛЕЙШЧЫНЕ

— Пфэ, які тутака патэнт, калі яго прадаюць у кожнае краме. Яны рады, што мы прадаём, бо мы прадаём іх "залежалы" тавар. Сьпірт "валяецца" на складах, і яго ніхто ня хочыць купляць. А які гэта гандаль, калі тавар залежваецца. Дык вот прыдумалі, затруціўшы, прыбавіўшы карасіну і іншага пашкудства, пусьціць гэты "залежалы тавар" на тэхнічныя цэлі.

— На перапаласкваньне горлаў й чэраваў агалеўшых сялян, — дабаўляю я.

— Няхай будзе так, я нічога не кажу, — засьцерагаецца крамнік.

— Калі вы ведаеце, што прадаецё затручаны сьпірт, дык, мабыць, ведаеце і аб тым, што шмат людзей ад яго труціцца? — пытаюся я.

— Чаму ня чутна, але што з гэтага?

— Як што? Нельга сьведама прадаваць атруты — вось што, — кажу я абурана.

— Чаго вы на мяне нападаеце, — кажыць жыд. — Дык нашто яны пазваляюць нам атручаны сьпірт прадаваць, а гэтыя сьвіньні, ведаючы, што сьпірт атручаны, сьведама яго п'юць? Я не вырабляю гэтага пашкудства. Я не прадавец гэтага "залежалага тавару", я толькі пасрэднік і больш ніхто.

— Так, так, — думаю, — ён толькі пасрэднік між тымі, хто сьведама пушчае ў гандаль атручаны "тавар" і тымі, якія нясьведама гэтым "таварам" труцяцца. Жыд фармальна ў парадку, маральная ж старана гэтага пасрэдніцтва яно не абходзіць. Няхай гэтыя, як ён сказаў, сьвіньні атруты ня п'юць.

Польская прэса часта падаець страшэнныя цыфры "залежалага" сьпірту на складах. Мільёнамі літраў сьпірту завалены склады, і няма набыўцоў. Што зрабіць, каб іх найсьці? Здавалася б, што трэ' было б абнізіць цану на сьпірт настолькі, каб быў ён сёньня ўсім даступны. Але, мабыць, "вышэйшая" арытмэтыка пярэчыць гэтаму. Прадаючы сьпірт на "тэхнічныя" цэлі, відаць, лепей аплачваецца, бо й сапраўды, гэты "тэхнічны" сьпірт аказаўся больш даступным для абяднеўшых сялян "крэсаў усходніх". І п'юць яго на вясельлях, хаўтурах, хрэсьбінах, вечарынах, п'юць з гора, п'юць з радасьці. І блізу няма тае вёскі, якая б ня мела свайго шынка, у якім за 30 гр[ошаў], а нат за 10 моладзь "купляець вясёлы настрой", які гэтак патрэбен на забавах й вечарынках. У торговыя дні па мястэчках п'юць людзі адкрыта "дыкалон" і "марнапольку". П'ець стары й малады. Так, п'юць, але ці ўсім ведама, колькі людзей йдзе без пары на той сьвет праз гэтую "тэхнічную" гарэлку і колькі ад яе асьлепла, аглохла і засталося на ўсё жыцьцё фізічных й маральных калек? А ці ведамы факты, што сын сёньня агалеўшага гаспадара крадзець апошні пуд дабра, каб пасьля прадаць яго або вымяняць на літр атруты? Й ці не варта зайсьціся ў які-колечы Гродскі суд і, пасядзеўшы тамака колькі гадзін, даведацца, колькі "grzywien"[1] даплачваюць аматары гэтае згубнае гары, не гаворачы ўжо аб змарнаваных тыднях й месяцах арэштных адседак. І ня дзіва, калі сёньня — як падаець прэса — украінскае грамадзянства пад Польшчай, дбаючае аб фізічным здароўі і маральнасьці свайго Народу, заклікала гэты Народ да байкатаваньня ўжываньня гарэлкі. І ці, урэшце, і нам, заўсёды ідучым у хвасьце, не пара б было аб гэтым падумаць?

Праз густы туман, спавіўшы ўсё жывучае, сонейка, асьвяціўшы сваймі агністымі косамі грэшную зямлю, разбудзіла людцаў й прызвала іх да штодзённае працы.

Пастыры зайгралі — затрубілі на сваіх трубах й жалейках, рупячы заспаўшых гаспадароў, каб падбалі аб сваей скацінцы.

— Тру-тру-тру! Ля-ля-ля! Тру-туру-тру! — раздаецца ўвакруг. Прыгожая музыка! Міла мне яна з малых дзён.

Іду па шасэйнае дарозе, пабудаванай йшчэ пры цары Мікалаі, вядучай з Даўгінава ў Будслаў, ці — як яго тутка завуць — у Буду. Пяць вёрст кацярыненскай бярозавай прысады. І не мана, што кацярыненскай, бо сьведчаць аб гэтым старыя бярозы — прысады. Ёсьць такія старыя, што ад сваей старасьці ўжо паўміралі — патрухлелі і абваліліся. Ах, — думаю, — каб умелі гэтыя бярозы гаварыці, шмат чаго б мне расказалі. І не адзін дзянёк, і не адну ночку праслухаў бы я іхніх сумных й цяжкіх аповесьцяў. Аб далёкіх і мінулых часах, аб гаротным народзе й няшчаснае Краіне пачуў бы я ад іх. І ня толькі гэтыя тоўстыя пні, паросшыя доўгім сівым мохам, быццам пасівеўшымі валасамі, былі сьведкамі цікавых прыгодаў, але й кожны іхны таўсты сук мог бы шмат мне расказаці. Мо' расказалі б яны, як у пякучыя летнія дні аддыхалі пад імі сьмяротна замучаныя вандроўнікі з усходу на захад і з захаду на ўсход, і як у зімовыя мяцеліцы, як пуцяводныя вехі, выратоўвалі не аднаго заблудзіўшага падарожніка, які, каб не яны, найшоў бы сьмерць пад белым пухам — сьнегам. Але яны маўчлівы. А калі і ўмеюць гаварыць, дык іхнае мовы я не зразумеў бы. Мая ж фантазія ня здоляе адбіць й тысячнае часьці сапраўднасцы далёкае мінуўшчыны.

На пятае вярсьце прысада паварачваецца ўправа й цягнецца далёка ў бок Докшыц. Моўчкі адвітваюся з мілымі бярозкамі і йду проста далей. Не агледзіўся, як прайшоў яшчэ пяць вёрст. Тутака круты паварот шасэйнае дарогі, невялічкае ўзгорье, і ўжо відаць будслаўскі касьцёл, і далей улева — будынкі жалезнадарожнае станцыі. Ад узгорку падаецца шаса што раз ніжэй і блізу пры самым мястэчку зьліваецца з будска-вайкалацкае нізінай, якая цягнецца далей пад Лепельшчыну. Йшчэ пяць вёрст — і я буду ў Будзе. Тут жа, амаль ня пры самай Будзе, перарэзвае шасу невялічкая рэчка Зуйка й коціцца далей, губляючыся ў высокае балотнае траве й лазовых кустах.

Якая б гарачыня не панавала, а ў Будзе найдзецца, чым дыхаць. Але калі пачнуць ліць вясновыя і восеньскія дажджы й калі размякнець зямля на жыжку, тагды ў Будзе ўжо мала чым дыхаць. Трэ' мець вельмі адпорныя лёгкія або акліматызавацца, каб магчы бяз труда перарабляць пануючае тут цяжкое й сырое паветра. А туманы? Вясной і ўвосень спавіваюць яны будска-ваўкалацкую нізіну і вісяць над ёю доўгія дні. Сонца й вецер быццам у змове й доўга не бароняць ад дакучлівага туману гэтага кутка нашае Беларусі.

Але мо' хто падумаець, што хварэюць тутка на калтун і — Божа барані — на трасцу? Не, бо ані аб калтунах, ані аб трасцы (як лаяцца — хіба тагды) тутка не пачуеш. Каранное насельніцтва гэтага нізіннага кутка ня меней здаровае й пладлівае, як, скажам, тыя беларусы, якія жывуць на ўзгорыстых й сухіх мясцох.

Увайшоўшы ў Буду, я мімавольна зьдзівіўся, што гэтае само па сабе малое мястэчка ў даволі кароткі час здоляла гэтак шырока разрасьціся. Дзе ні глянь, усюдых новыя дамкі й дамы, сярод якіх ёсьць шмат і прыгожых. Вось дзе, — думаю, — шчасьлівая беларуская мясьціна — адно што плодная, бо ўжо ня могуць тоўпіцца ў сваіх старых хатах й набудаваўшы дамкоў для ўжо народжаных дзетак, будуюць ужо й для тых, якія могуць йшчэ прыйсьці на гэты сьвет, а другоя, што ў гэткія цяжкія санацыйныя часы маюць грошы на такую роскаш, як будоўля, на якую аўтару гэтых вандровак ня можыць й прысьніцца.

— Цудоўныя рэчы творацца, — думаю, — за 40 вёрст ад мяне, а я толькі сёньня патурбаваўся аб гэтым відавочна пераканацца. Нарадзіўся — скажам — сын ці дачка, а тут яму бацькі — тыц у падарак новы дамок. "Йдзі, дзіцятка, й жыві ў новае хатцы. Ты йшчэ быў у чарове тваей маткі, а я ўжо прыгатаваў табе хатку. Бачыш, які разумны твой тата". І цяпер ужо ня йду, а, засопшыся, бягу ў першую хату свайго прыяцеля, а маю іх тут шмат, блізу ў кожнае хаце — каб голасна пажаліцца аб сваёй нядолі й выгаварыць будзянам, што яны, разбагацеўшы і заняўшыся будоўляй сваіх хатак, забыліся аб сваім старым, але бедным прыяцелю.

Слухаюць, сьмяюцца й ківаюць галовамі. А гаспадар без царамоніі, проста пытаецца ў мяне: "Ці добра ты сёньня выспаўся і ці не ўчадзеў ты ў тае хаце, дзе начаваў?" Што, думаю, за кпіны і нахальнае пытаньне?

— А што табе, — пытаюся са злосьцю, — да гэтага? — і ўжо сабраўся плюнуць і выйсьці з хаты.

— Як што, — кажыць мой прыяцель, — бо ж ты пляцеш нястворaныя рэчы. Ці ж ты сапраўды думаеш, што кожны з нас, будзянаў, ужо сапраўды пабудаваў хатку нат і для тых нашых насьледнікаў, аб якіх мы йшчэ не згаварыліся з нашымі жонкамі? Паглядзі вось у мяне: восем пуплоў, а ўсе яны жывуць разам са мною ў старой хаце. І давай мне расказваць, як і што. І аказваецца, што не будзяне гэта разбудавалі сваю Буду, а розныя "марыканты", урадаўцы, вайсковыя, быўшыя вайсковыя і іншыя. І што пахварэлі на гэтую будаўляную гарачку, дзякуючы закватэраваньню ў Будзе пагранічнага батальёну, і што ад гэтае гарачкі шмат хто пагубляў галовы, бо набудавалі болей, чым патрэбна, і цяпер шмат новых дамоў пустуець.

[1] Грыўнаў.

**Антон ПАДДУБІЧ**

**Працяг.
Пачатак у №№ 33—37.**

*НІЗКІ ПАКЛОН СПАДАРЫНІ ІРЭНЕ КАЛЯДА*

# КАБ І НАСТУПНЫМ ЛЕТАМ БЫЛО ТАК!

**Славенія... Маленькая, вельмі зялёная гасцінная краіна, з даволі высокім узроўнем жыцця. Сярэднемесячная зарплата 800 долараў, кожны славенец мае машыну, кватэру ці дом. Усё гэта можна набыць пад крэдыт за невялікія працэнты.**

Тут, на беразе Адрыятычнага мора, у дзіцячым цэнтры Чырвонага Крыжа Славеніі гэтым летам прайшлі курс аздараўлення 70 беларускіх дзяцей з аслабленай імуннай сістэмай, бранхіяльнай астмай, хранічнымі прастуднымі захворваннямі, павялічанай шчытападобнай залозай. Цёплае мора, басейн з марской вадой, паветра, настоенае на водары гаючых вечназялёных кветак, лавандзе і размарыне — сапраўднае райскае месца для нашых дзяцей. Большасць з іх — з сямей беларускай інтэлігенцыі, якія ніколі не былі за мяжой і нават на моры. Такі цудоўны падарунак яны атрымалі ад нашай зямлячкі з Амерыкі Ірэны Каляды-Смірновай. Як і многія нашы суайчыннікі за мяжой, яна вельмі балюча ўспрыняла чарнобыльскую трагедыю, што паставіла беларусаў на мяжу фізічнага выжывання. Ірэну асабліва хвалюе здароўе нашых дзяцей, бо ад яго залежыць лёс беларускай нацыі. Яна ведае, што сёння ў Беларусі няма практычна здаровых дзяцей, асабліва ў вялікіх гарадах. Ірэна — прэзідэнт фонда Ethnic Voice of America, даўні спонсар Чырвонага Крыжа Славеніі.

Асаблівай увагі заслугоўвае яе пляменнік Жорж Каляда з Навагрудка. Ён фактычна з'яўляўся прадстаўніком Ірэны ў Славеніі і правёў вялікую працу па арганізацыі паездкі. Шчыра кажучы, я ў нейкі час сумнявалася ў выніку, калі даведалася, як складана паездку аформіць. Але ж з дапамогай Жоры яна адбылася. І ў летніку ён выконваў абавязкі фінансавага дырэктара, перакладчыка, кіраўніка розных мерапрыемстваў і экскурсій.



"Мы проста ў захапленні ад паездкі, — расказваюць Таня Гарон і Андрэй Такінданг, — цікавыя экскурсіі, знаёмства з гістарычнымі мясцінамі, новымі сябрамі". Ім вельмі спадабалася паездка на возера, у якое, як у люстэрка глядзяцца вяршыні прылягаючых гор, скрозь блакітную празрыстую ваду на 30-мятровай глыбіні можна бачыць чароды вялізных рыб, а пасярэдзіне на маленькім востраве ўзвышаецца царква XI стагоддзя. Таня і Андрэй вучацца ў беларускім мастацкім ліцэі. Як і большасць адпачываючых дзяцей, добра ведаюць беларускую мову, гісторыю Беларусі. Размаўляючы з аднагодкамі-славенцамі, прыйшлі да высновы, што мовы і гісторыя нашых краін вельмі падобныя.

Маленькая Данута, якая з-за частых хвароб паўгода не хадзіла ў школу, да гэтага часу ў сваіх снах бачыць дарагіх пародзістых коней, якіх дзеці пабачылі падчас экскурсіі на конным заводзе XVI стагоддзя. Яна марыць паехаць наступным летам толькі ў Славенію...

Вядома, што нашых хлопчыкаў вельмі ўразілі пячоры, дзе яны пабывалі і на свае вочы ўбачылі сталактыты і сталагміты, падземныя рэчкі... А яшчэ яны часта ўспамінаюць спартыўныя міжнародныя спаборніцтвы па плаванню, футболу, баскетболу, у якіх каманда Беларусі заўсёды займала першае месца.

А ў канцы жніўня Ірэна са сваім калегам Марыо, які родам са Славеніі, і вядомым нам усім Міколам Прускім, выдаўцом і грамадскім дзеячам, наведалі галоўны офіс Чырвонага Крыжа ў Любляне, сустрэліся з дзецьмі ў лагеры, прывезлі падарункі і вітаміны. Пісьменніца Антаніна Хатэнка, адна з выхавальніц групы дзяцей, перадала гасцям з Амерыкі беларускія сувеніры і сказала на развітанне:

— Ад імя ўсіх бацькоў, дзеці якіх не маглі нават марыць аб такім адпачынку, выказваем вялікую падзяку спадарыне Ірэне за тую высакародную справу, якую яна распачала ў гэтым годзе. Мы гатовы яе прадоўжыць у наступным, 1999 годзе, і спадзяемся, што Ірэна падтрымае нашы намаганні, а таксама падтрымаюць і ўсе тыя, каму неабыякавы лёс беларускай нацыі.

**Ніна ПЕТУХОВА.**









**НА ЗДЫМКАХ: Дзіцячы цэнтр Чырвонага Крыжа Славеніі; да дзяцей, што адпачывалі ў цэнтры, прыехала Ірэна КАЛЯДА (у капелюшы), Мікола ПРУСКІ (крайні справа) і МАРЫО з ЗША (другі справа); Жорж КАЛЯДА з жонкай Галяй; беларускія дзеці пад сонцам Адрыятыкі.**

**Фота аўтара.**

1998-мы — ГОД АДАМА МІЦКЕВІЧА

# «ЁН НОСІЦЬ З САБОЙ СВАЮ РАДЗІМУ»





Так сказаў пра Адама Міцкевіча рускі пісьменнік А. Герцэн. І няцяжка здагадацца, што радзімай паэт лічыў Навагрудчыну, зямлю, што нарадзіла яго, удыхнула ў яго душу адметны паэтычны талент, жывіла яго сваёй прыгажосцю і непаўторнымі народнымі песнямі, гаворкай, паданнямі. Тут, у коле сяброў і аднадумцаў, стаў ён перакананым змагаром за свабоду.

...Сонечнай раніцай 12 верасня задоўга да афіцыйнага адкрыцця свята паэзіі, тысячы людзей запоўнілі цэнтр Навагрудка. Госці і навагрудчане накіраваліся ў бок Замкавай гары да помніка Адаму Міцкевічу, дзе ўсклалі кветкі і аддалі даніну павагі вялікаму паэту. Раніцай у фарным касцёле, дзе хрысцілі Адама Міцкевіча, адбылася ўрачыстая імша.

Насупраць Дома-музея А. Міцкевіча ў цэнтры Навагрудка — паркавая алея. Якраз у цэнтры яе і быў пасаджаны малады дубок, як сімвал таго, што жыве і будзе моцнай, як гэта магутнае дрэва, памяць на нашай зямлі аб славутым земляку і геніяльным паэце. На адкрыцці свята выступіў старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі паэт Уладзімір Някляеў.

Ён сказаў: "З удзячнасцю нашчадкаў сабраліся мы сёння тут, на крэўнай зямлі слыннага сына беларускай зямлі. Усе ведаюць, і ніхто таго не хавае, што права лічыць і прадстаўляць яго ў свеце сваім паэтам аспрэчваюць тры народы. Што ж, у свой час за Гамера змагалася сем антычных гарадоў, але самога Гамера праз гэта ў сем разоў не паменела. І ён у поўнай меры належыць сёння ўсяму чалавецтву. Тое ж самае і з Міцкевічам. Някарэктна нам перацягваць генія на адзін нейкі бок па ягонай моўнай альбо нацыянальнай прыналежнасці. Але сцвярджаць так і ганарыцца тым, што ён плоць ад плоці, кроў ад крыві, дух ад духу нашага народа, мы маем права і не павінны ім паступацца. Тым больш што сам Міцкевіч сцвярджаў, што літаратура ніколі не страціць сваіх нацыянальных прыкмет. І сам ён іх ніколі не страчваў. І ў 1831 годзе ў Парыжы, дзе было больш за шэсць тысяч усходніх эмігрантаў, стаў менавіта членам літоўскага таварыства, бо задоўга перад тым абвясціў усяму свету сваю прыналежнасць, калі выдыхнуў малітоўна: "Літва — ойчызна моя!" І калі тут не хітраваць, дык усе дакладна ведаюць, якую айчыну меў ён на ўвазе.

І дзе б Адам Міцкевіч ні блукаў, дзе б ні вандраваў, а абрысы Навагрудчыны, гэтай самай Літвы, нагадвалі яму і Альпы, і Крым. І нават Канстанцінопаль здаваўся яму падобны на Навагрудак. "Ён носіць з сабой сваю Радзіму", — сказаў пра яго Герцэн.

І зусім невыпадкова Пушкін называў Міцкевіча сынам менавіта Літвы. А значыць — Беларусі. Іх, Міцкевіча і Пушкіна, двух славянскіх геніяў, клапаціла, апроч паэзіі, і ідэя славянства, якую кожны з іх разумеў па-рознаму, але ніколі яны не страчвалі праз тое талерантнасць і ўзаемапавагу".

Адам Міцкевіч праз усё жыццё пранёс пяшчоту да роднага краю. І пра тое шмат гаварылі госці з іншых краін. Ды некалі і сам Пушкін называў свайго сябра "певцом Литвы". Пры належных умовах Адам Міцкевіч, безумоўна, пісаў бы на беларускай мове, якую ставіў вельмі высока. І калі б хто і хацеў вытравіць усё беларускае з творчасці Міцкевіча — гэта было б немагчыма. Яго мова, і тое прызнаюць нават польскія даследчыкі, — гэта мова беларускай апалячанай шляхты. Густа перамешаную беларусізмамі мову твораў паэта не заўсёды маглі зразумець у карэннай Польшчы. "Вы для Літвы, а не для Кароны пішаце", — наракалі на "літоўскіх" пісьменнікаў, у тым ліку і на Міцкевіча, варшаўскія крытыкі.

Але ўсё гэта ў мінулым. Сёння Адам Міцкевіч — паэт Сусвету.

У гэты сонечны верасьнёўскі дзень у Навагрудку было сапраўднае свята. Ігралі, спявалі і танцавалі ансамблі прафесійных і самадзейных артыстаў. Чыталіся вершы Міцкевіча і аб Міцкевічу, усюды прадаваліся яго кнігі, паштоўкі, маркі з партрэтным адлюстраваннем Паэта. Няглядзячы на немалы кошт, паспяхова куплялася юбілейнае выданне паэмы Адама Міцкевіча "Пан Тадэвуш" на трох мовах — польскай, беларускай, рускай. У з'яўленні на свет новых тамоў гэтага эпічнага твору прынялі ўдзел выдавецтвы Масквы, Варшавы і Беларускі фонд культуры. Прыклад выдатнага супрацоўніцтва, узаемаразумення.

Прайшоўшае дванаццатага верасня свята ў Навагрудку зусім не азначае, што ўшанаванне памяці Адама Міцкевіча, двухсотгоддзе з дня нараджэння якога спаўняецца 24 снежня, закончылася. Яно будзе працягвацца на Гродзеншчыне, па ўсёй Беларусі да канца года.

**НА ЗДЫМКАХ: выступае Дзяржаўны акадэмічны хор імя Г. Цітовіча; малады дубок у памяць аб 200-годдзі паэта; сцэны з кампазіцый па матывах твораў А. Міцкевіча; імша ў фарным касцёле.**

**Фота Аляксандра ТАЛОЧКІ, БелТА.**





ВІНШУЕМ З ЮБІЛЕЕМ!

Сяргей ГРАХОЎСКІ



### ЗДЗІЎЛЕННЕ

Як хочацца забыцца пра турботы,
Пра горкія складанасці жыцця,
Адкласці неадкладныя работы,
На свет глядзець наіўна, як дзіця,

Пачуць у светлых вербах на світанні
Усплёскі затуманенай ракі,
І як цяцёрак клічуць на спатканне
Аглухлыя з вясны цецярукі,

Лавіць губамі горкі і салодкі
Пылок мядункаў, траў і багуну
І, як гарлачык на зялёным сподку
Дрыготкія пялёсткі разгарнуў,

Глядзець і захлынацца ад здзіўлення,
Маўчаць, жывую слухаць цішыню,
І сам сабе паверыць на імгненне,
Што бачу гэты свет упершыню,

Глядзець на ўсё наіўнымі вачыма,
Як у далёкі і забыты год,
Але нідзе пазбыцца немагчыма,
Ні клопатаў, трывогі і турбот.

* * *

Пакрыўдзіў, кажуць, чалавека лёс.
А дзе той лёс! Якім ён быў і будзе!
Людзей заўсёды да бяды і слёз
Даводзяць абыякавыя людзі.

Сваты запал астудзяць у душы,
Дзіця пакрыўдзяць, засмяюць калеку,
Аж пабягуць па скуры мурашы...
Пара быць чалавекам чалавеку.

### АДДАНАСЦЬ

Сцярплю я ўсе твае пакуты,
Бо сам не ведаю, калі
Душой, як ланцугом, прыкуты
Да беларускае зямлі.

Цярплівасці ў яе вучуся
З сумленнем чыстым і святым.
Не здраджу ёй, не разлучуся
На гэтым свеце і на тым.

### ВЕТРАЗЬ

(З прадмоваю)

*Знаёмая сібірачка здзівілася: "Какой бедный ваш язык. Все слова русские, только с испорченным произношением". Яна праслухала верш "Ветразь" і прызналася: "Ничегошеньки не поняла" Вось гэты верш:*

У вырaі ветразь знікае
За хваляй, нібы на спачын,
І змора яго не злякае,
Не спыніць жудой далячынь.

У змроку зіхоткая здрада
Завабіць хлуснёю ў віры,
На золку сканае прынада
І кволы прамень на жвіры.

Раптоўна згаданыя мроі
Ў карунках пяшчотнай тугі
Павольна знікаюць, як строі,
У бязважкасці кволай смугі.

Знікае ўсхвалёваны ветразь.
З кунегаю пільна сачу,
Як водар аздобіў паветра,
І ў бездані знічкі лічу.

*"Ни одного русского слова не услышала. А как звучит по-русски?" — спытала знаёмая. І я прачытаў ёй аўтапераклад:*

### ПАРУС

Парус, как белую стаю,
Волна на покой унесла,
Он лёгким виденьем растаял,
Угроз не пугаясь и зла.

Сусальные блёстки изменой
Заманят в крутую волну,
Растает шипящая пена,
К седому прильнув валуну.

Нежданно мечты и надежды
Исчезнут, как лёгкий туман,
И, как привиденья, одежды
Спадут в поредевший туман.

Взволнованный парус исчезнет,
Как пламя дотлевшей свечи,
А я над бушующей бездной
Считаю созвездья в ночи.

*"Вот теперь понятно!" — прызналася сібірачка.*

---

БЕЛАРУСЬ ЗНОЎ АДКРЫВАЕ ДЛЯ СЯБЕ АДАМА МІЦКЕВІЧА

# ПАШЫРАЎ ДАБРО СЯРОД ЛЮДЗЕЙ

У Мінску ў Доме дружбы 8 і 9 верасня праходзіла Міжнародная навуковая канферэнцыя "Адам Міцкевіч і нацыянальныя культуры", прысвечаная 200-годдзю з дня нараджэння паэта.

На канферэнцыю прыехалі ўдзельнікі з Польшчы, Расіі, Англіі, Украіны, Латвіі, Літвы, Швейцарыі. На ёй прысутнічалі прадстаўнікі ўрада, грамадскія дзеячы.

З асноўнымі дакладамі выступалі прафесар Алег Лойка ("Адам Міцкевіч і Беларусь"), прафесар Ежы Клачоўскі з Польшчы ("Творчасць Адама Міцкевіча як супольная культурная спадчына народаў былой Рэчы Паспалітай"), доктар філалагічных навук Аляксандр Ліпатаў з Расіі ("Міцкевіч і Пушкін"), прафесар Януш Адравонж-Пянёнжак з Польшчы ("Міцкевіч і Завоссе"), доктар філалагічных навук Арнольдас Пырачкінас з Літвы ("Вытокі рамантызму Адама Міцкевіча"), доктар гістарычных навук Леанід Лыч ("Ідэя славянскага ўзаемаразумення ў парыжскіх лекцыях Адама Міцкевіча").

У час канферэнцыі працавалі секцыі "Адам Міцкевіч у гісторыі і сучаснасці" і "Спадчына Адама Міцкевіча": філалагічны і культуралагічны аспекты".

Наша газета пісала ўжо пра маючы адбыцца выхад паэмы "Пан Тадэвуш" на мове арыгінала, беларускай і рускай мовах з 37-мю ілюстрацыямі Васіля Шаранговіча. Кніга выйшла. Старшыня Беларускага фонду культуры Уладзімір Гілеп паказаў удзельнікам канферэнцыі сігнальны экземпляр кнігі. Нагадаем, што "Пан Тадэвуш" у перакладзе Пятра Бітэля выдаецца ўпершыню. І зроблены быў ён у 1953 годзе ў ГУЛАГу. Як адзначыў Уладзімір Гілеп, ён рабіўся не для выдання, а каб тыя, хто сядзеў з перакладчыкам за кратамі, — рускія, беларусы, палякі — маглі прачытаць "Пана Тадэвуша".

Уладзімір Гілеп, на мой погляд, выказаў галоўную думку канферэнцыі: "Імя гэтае (маецца на ўвазе Адам Міцкевіч) павінна нас збліжаць, а не дзяліць".

Навукоўцы ў сваіх дакладах пацвердзілі гэтую думку. "Чым болей Беларусь будзе станавіцца Беларуссю — тым больш значным будзе для нас Адам Міцкевіч", — так сказаў прафесар Алег Лойка.

Прафесар Адам Мальдзіс ацаніў канферэнцыю вельмі высока: "Думаю, што канферэнцыя ўдалася. На яе прыехалі вельмі аўтарытэтныя людзі, якія зрабілі ўклад у вывучэнне спадчыны Міцкевіча. Мы абавязкова выдадзім матэрыялы канферэнцыі".

9 верасня ў касцёле святых Сымона і Алены адбылося ўрачыстае адкрыццё Бібліятэкі імя Адама Міцкевіча. У Мінску ў канцы XIX стагоддзя беларуская інтэлігенцыя арганізавала бібліятэку імя Адама Міцкевіча. З 1908 года яна месцілася ў Чырвоным касцёле. Там збіраліся інтэлектуалы Міншчыны. У 1920-м годзе яна была вывезена з горада і раствырылася на польскіх землях. Дзякуючы ініцыятыве ўладаў г. Беластока, на беларускую зямлю трапіла шмат кніг — польскіх, рускіх, беларускіх. Сярод іх — даведачныя, мастацкія выданні, слоўнікі. Такім чынам адбылося вяртанне бібліятэкі на Беларусь. Дырэктар Інстытута гісторыі НАН Беларусі акадэмік Міхаіл Касцюк падкрэсліў на адкрыцці бібліятэкі: "Адкрыццё такой бібліятэкі — гэта магчымасць успомніць, колькі яшчэ беларускіх нацыянальных каштоўнасцяў знаходзіцца не на нашай зямлі. І падкрэсліць, што праца па вяртанню культурных каштоўнасцяў — праца высакародная."

Асвяціў бібліятэку яе апякун пробашч касцёла святых Сымона і Алены ксёндз Уладыслаў Завальнюк, які сказаў: "Мы вельмі рады гэтаму здарэнню, дню, калі мы ўсе разам адчуваем дух Адама Міцкевіча. Сёння Адам Міцкевіч прыходзіць у святыню, прыходзіць праз культуру, нашую прысутнасць, нашую добрую волю нашага аднаго духу. Няхай добры Бог благаслаўляе гэтае пачынанне".

На адкрыцці бібліятэкі прысутнічалі прадстаўнікі гарадской, рэспубліканскай улады. І яшчэ там было шмат бацькоў з дзецьмі. Дзіцячы хор спяваў "Магутны Божа". Адам Міцкевіч у той вечар стаў бліжэй кожнаму з прысутных.

Пасля адкрыцця бібліятэкі ў касцёле святых Сымона і Алены адбылася імша святая, набажэнства за Адама Міцкевіча. Ксёндз Уладыслаў скончыў свой зварот да прысутных так: "Божа, праз такіх людзей, як Адам Міцкевіч, благаславі і пашырай дабро... сярод людзей усёй Зямлі".

**Алена СПАСЮК.**

**НА ЗДЫМКАХ: удзельнікі Міжнароднай навуковай канферэнцыі "Адам Міцкевіч і нацыянальныя культуры"; на адкрыцці бібліятэкі ў Чырвоным касцёле.**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**





## ПАЭТЫЧНАЯ ЛУНІНЕЧЧЫНА

Літаратурная гісторыя Лунінеччыны — гэта творчасць, старонкі жыццёвай біяграфіі Міколы Федзюковіча, Уладзіслава Нядзвецкага, Міколы Калінковіча, Івана Макаловіча, Сцяпана Лаўшука. Імёны гэтых пісьменнікаў, публіцыстаў, літаратуразнаўцаў добра вядомыя чытачам усяе Беларусі.

Але ў розныя гады ў Лунінцы і Лунінецкім раёне працавала і працуе вялікая група літаратараў меней вядомых, паэтаў, празаікаў, якіх не адносяць і якія самі сябе не адносяць да прафесійных майстроў слова. Звычайна такія творцы гуртуюцца вакол літаб'яднання "Палессе", што плённа дзейнічае пры мясцовай "раёнцы" ажно з 1956 года.

Сёлета ў Лунінцы выдадзена своеасаблівая анталогія вершаў лунінецкіх паэтаў — "Азбука поэзии" (укладальнік — кіраўнік літаб'яднання Вадзім Жылко). Разам сабраныя вершы 46 аўтараў. Друкуюцца творы на мове арыгінала — па-руску альбо па-беларуску. Да месца будзе заўважыць, што прадмова, каментары маглі б быць пададзены ўсё ж на беларускай мове. Выдадзена "Азбука поэзии" з надзеяй, што альманах стане традыцыйным, штогадовым.

У некаторых аўтараў альманаха ўжо і раней выходзілі кнігі. У лунінецкай жа вершаванай анталогіі прадстаўлены ў асноўным творы, напісаныя ў 1990-я гады.

Што адметна, са старонак зборніка гучаць і вершы тых аўтараў, хто ўжо пакінуў Лунінеччыну, але і зараз працягвае падтрымліваць з краем сувязь.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

## ЗБОРНІК ЛЕГЕНД І ПАДАННЯЎ

Зусім нядаўна ў выдавецтве "Беларусь" у серыі "Мой родны кут" выйшаў зборнік легенд і паданняў, звязаных з паходжаннем назваў населеных пунктаў Мінскай вобласці. Легенды і паданні запісаны і апрацаваны доктарам філалагічных навук А. Ненадаўцом. Яны пераносяць нас у часы далёкай мінуўшчыны. Магчыма, некаторыя з гэтых гісторый маюць пад сабой рэальную аснову. Перадаючыся з пакалення ў пакаленне, яны дадумваліся, змяняліся і з цягам часу гублялі рэальныя гістарычныя звесткі, але захавалі мясцовы каларыт, самабытнасць. А складальнік кнігі, апрацаваўшы запісаныя ім паданні, надаў ім форму цікавых апавяданняў, падобных на любімыя з дзяцінства народныя казкі.

НАВАПОЛАЦКУ — 40 ГОД

# КУДЫ ВЯДЗЕ ВУЛІЦА МАЛАДЗЁЖНАЯ

Гарачым летам 1958 года на левым беразе Заходняй Дзвіны была пастаўлена першая палатка будаўнікоў навапалацкага нафтаперапрацоўчага завода. А сёння тут размяшчаецца сучасны горад. Людзі і іх жыццё ствараюць своеасаблівы каларыт і робяць горад надзвычай прывабным. У Наваполацка магутны прамысловы патэнцыял. Найбуйнейшае ў Еўропе вытворчае аб'яднанне "Нафтан" забяспечвае палівам, змазачнымі маслами, нафтабітумамі не толькі Беларусь, але і шэраг краін Еўропы і Азіі. Поліэтылен высокага ціску, поліакрылапітрыльныя валокны, поліамідныя і поліэфірныя масла, воск і іншыя прадукты арганічнага сінтэзу ВА "Полімір" экспартуе больш чым у 15 краін свету. Навапалацкае прадпрыемства па транспарціроўцы нафты — найбуйнейшая трубаправодная магістраль для дастаўкі "чорнага золата" з Сібіры ў краіны Усходняй Еўропы. Заводы "Вымяральнік", бялкова-вітамінных канцэнтратаў, цеплаэлектрацэнтраль таксама садзейнічаюць працвітанню горада.



Полацкая зямля была калыскай беларускай дзяржавы і адной з асноўных крыніц фарміравання нацыянальнай культуры, асветніцтва, мастацтва і навукі. Дзяржаўны універсітэт, што адкрыўся ў Наваполацку, з'яўляецца прадаўжальнікам больш чым чатырохвяковай традыцыі універсітэцкай адукацыі на Полаччыне. Тут вядзецца навучанне па 19 спецыяльнасцях. Гэта адзіная навучальная ўстанова ў Беларусі, дзе можна атрымаць дыплом па прафесіях, звязаных з нафтахімічнай вытворчасцю.

ПТВ-28 нафтахімікаў, ПТВ-89 будаўнікоў, палітэхнікум і музычнае вучылішча даюць магчымасць набыць рабочую прафесію і сярэднюю спецыяльную адукацыю.

Полаччына здаўна славілася таленавітымі людзьмі і традыцыямі высокай культуры. І сёння Наваполацк ганарыцца сваімі пісьменнікамі і паэтамі, чые кнігі выдаюцца не толькі ў Беларусі, але і за яе межамі, мастакамі, чые карціны прадстаўлены ў дзяржаўных музеях рэспублікі і прыватных калекцыях Еўропы і Амерыкі.

Горад юны, але ўжо праславіўся адной з лепшых у рэспубліцы спартыўнай базай. Далёка за межамі Беларусі вядомыя палачане прызёры і чэмпіёны свету і Еўропы па водных лыжах, цяжкай атлетыцы, каратэ-до і бодзі-білдынгу. У распараджэнні хакеістаў адзіны ў вобласці Палац культуры і спорту з крытай хакейнай пляцоўкай. Навапалачане сталі сведкамі многіх міжнародных і рэспубліканскіх спаборніцтваў па хакею, футболу, плаванню і лыжных гонках.

Наваполацк заўсёды рады гасцям. Гонарам горада стаў трохзоркавы гасцінічны комплекс "Нафтан". Еўрапейскі дызайн, чысціня і ўтульнасць, высокі ўзровень абслугоўвання — усё гэта робіць атэль прывабным як для турыстаў, так і для бізнесменаў. У лясных ваколіцах Наваполацка размясціліся зоны адпачынку і санаторыі-прафілакторыі, дзе могуць добра правесці час жыхары і госці горада.

З кожным годам прыгажэе Наваполацк. Заўсёды прыемна прайсціся ў цяні яго паркаў і алей, пасядзець каля фантанаў, адпачыць ва ўтульных рэстаранах. Праз увесь горад ляжыць шлях знакамітай "вуліцы без канца" — Маладзёжнай. Менавіта з яе пачаўся Наваполацк. Магчыма, менавіта яна злучыць калі-небудзь Наваполацк са старажытным Полацкам.

**НА ЗДЫМКАХ: жылыя дамы Наваполацка; трыццаць гадоў назад выдала першую прадукцыю вытворчае аб'яднанне "Палімір". Устаноўка па вытворчасці поліэтылена; медсястра радзільнага аддзялення Навапалацкай бальніцы Марына КОЛАСАВА з нованароджанымі — будучымі гаспадарамі горада; гордасць Наваполацка — лядовы Палац спорту ВА "Палімір"; сям'ю навапалацкіх мастакоў Лук'яненкаў ведаюць далёка за межамі нашай рэспублікі. Бацькі Віктар і Вольга — члены Саюза мастакоў рэспублікі, а іх дачка Уля экспанавала карціны ў галерэі "Ізмайлава" і "Вялікім тэатры" ў Маскве, на іншых прэстыжных выставах. На здымку — Уля з бацькам у майстэрні.**

**Аляксандр ХІТРОЎ, БелТА.**
**Фота аўтара.**









Рэдактар
Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь;
Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі;
Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства «Радзіма»).



НАШ АДРАС:
220005, Мінск, праспект Ф. Скарыны, 44.

Тэлефоны: 213-31-97, 213-32-80, 213-30-15, 284-76-56, 213-37-82.



Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку». (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77).
Тыраж 1 592 экз. Індэкс 63854. Зак. 1620.
Падпісана да друку 21. 09. 1998 г. у 12.00.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.